**Гродна**
№ 6 (417),
22 сакавіка 2015

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# ПАСЛАННІК ПАПЫ Ў БЕЛАРУСІ



Падчас цырымоніі прывітання высокага госця з Ватыкана

**Кардынал П'етра Паралін, Дзяржаўны Сакратар Яго Святасці папы Францішка, наведаў 12–15 сакавіка з афіцыйным візітам Беларусь. Ватыканскі іерарх правёў шэраг сустрэч на самым высокім узроўні, асвяціў першы камень будынка Апостальскай нунцыятуры ў Мінску, а таксама атрымаў магчымасць лепш пазнаць жыццё каталіцкага Касцёла ў Беларусі і адносіны паміж дзяржавай і Касцёлам.**

працяг на с. 3

## Каляндар падзей

***25 сакавіка***
*урачыстасць Звеставання НПМ.*
*Дзень святасці жыцця і малітвы ў інтэнцыі зачатых дзяцей. Духоўнае ўсынаўленне.*

***29 сакавіка***
*Пальмовая нядзеля.*
*Сусветны дзень моладзі. Асвячэнне вербачак.*

***2 красавіка***
*Вялікі чацвер.*
*Імша Хрызма ў катэдры а 10-й гадзіне. Молімся за святароў і новыя пакліканні да Божай службы.*

***3 красавіка***
*Вялікая пятніца.*
*Абавязковы сцiслы пост. I дзень Навэнны да Божай міласэрнасці.*

***4 красавіка***
*Вялікая субота.*
*Рэкамендуецца ўстрыманне ад мясного. Асвячэнне велікодных страў.*

***5 красавіка***
*Нядзеля Уваскрасення Пана.*
*Пачатак актавы Вялікадня.*

## Запрашаем!

***Праграмы каталіцкай рэдакцыі:***

***"Голас Евангелля"***
*Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.*
***Кожную нядзелю ў 8.00***
*запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.*
***Гродна 103,0 FM***
***Свіслач 105,9 FM***

***"Сімвал веры"***
*Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выйдзе на тэлеканале Беларусь-2"*
***30 сакавіка***
***ў панядзелак у 18.05***
*пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання.*

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**Ці прымаеце Вы ўдзел у велікапосных набажэнствах?**

- *так, у Крыжовым шляху*
- *так, спяваю Песні жальбы*
- *так, у рэкалекцыях*
- *так, сістэматычна ва ўсіх*
- *не сістэматычна*
- *мне не хапае часу*
- *цяжка сказаць*


Выкажыся

**"Вы з'ўляецеся найпрыгажэйшай кветкай у садзе Касцёла" – кард. П'етра Паралін**




### V НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ

**Ян 12, 20–33**

Былі некаторыя грэкі сярод тых, хто прыйшоў пакланіцца Богу на свята. Яны падышлі да Філіпа, які быў з Бэтсаіды Галілейскай, і прасілі яго, кажучы: "Пане, мы хочам бачыць Езуса". (...)

А Езус сказаў ім у адказ: "Настала гадзіна ўслаўіцца Сыну Чалавечаму. Сапраўды, сапраўды кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, то застанецца адно, а калі памрэ, то прынясе багаты плён. Хто любіць жыццё сваё, загубіць яго, а той, хто ненавідзіць жыццё сваё на гэтым свеце, захавае яго для вечнага жыцця. Калі хто служыць Мне, няхай ідзе Маім шляхам; і дзе Я, там будзе і слуга Мой. І хто Мне служыць, таго ўшануе Айцец Мой. Цяпер усхвалявана душа мая; і што Мне сказаць? Ойча, захавай Мяне ад гэтай гадзіны. Але ж дзеля гэтай гадзіны Я і прыйшоў. Ойча, услаў імя сваё!" І пачуўся з неба голас: "Уславіў і ўслаўлю зноў". (...)

## ПРАЎДУ ЛЕПШ ЗА ЎСЁ ЧУВАЦЬ У ЦІШЫНІ

Мой знаёмы пранікліва расказваў: "Некалькі дзён таму мой малы сынок па дарозе з дзіцячага садка дадому нечакана спытаў: «Тата, а ты бачыў Бога? А я магу Яго ўбачыць?» Поўнасцю разгублены я пачаў расказваць, як яго любяць яго мама, дзядуля з бабуляй і я сам. Сказаўшы некалькі сказаў, я замаўчаў, і настала няёмкая цішыня. Тады нашае маўчанне прарвала дзіця: «Татачка, я ўжо ведаю, як выглядае Бог»".

Пытанні, якія датычаць веры, патрэбны. Неабходнымі з'яўляюцца нават гэтыя бездапаможныя адказы. Але самае важнае – гэта цішыня. Нават калі яна нязручная і няёмкая. У маўчанні мы адаруем Пана Езуса ў касцёле. Для рахунку сумлення таксама неабходна суцішыць сэрца. Каб у цішыні велікоднай раніцы магчы сустрэць Уваскрослага. Бо зерне пшаніцы пускае парастак у цішыні.

### ПАЛЬМОВАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 12, 12–16**

Мноства людзей, якія прыйшлі на свята, калі пачулі, што Езус ідзе ў Ерузалем, узялі пальмовыя галінкі і выйшлі Яму насустрач, і ўсклікалі: "Гасанна! Бласлаўлёны той, хто прыходзіць у Імя Пана, Цар Ізраэля!" А Езус знайшоў асляня і сеў на яго, як напісана: "Не бойся, дачка Сіёна, вось Цар твой ідзе, седзячы на асляняці". Вучні Ягоныя спачатку не зразумелі гэтага, але калі Езус уславіўся, тады ўзгадалі, што так было пра Яго напісана, і што так Яму зрабілі.

## ТАЯ МУКА БЫЛА ЗБАЎЧАЙ НЕАБХОДНАСЦЮ

Чарговы раз Касцёл узгадвае той дзень, калі Месія – Цар Ізраэля – урачыста ўязджаў у свой горад – Ерузалем. Тады Апосталы не разумелі сэнсу гэтай падзеі. Сёння ў нас больш звестак, каб разумець усё нават лепш за Апосталаў. Яны бачылі Уваскрослага і бачылі Касцёл на яго пачатку. Мы ж сёння можам карыстацца скарбніцай Касцёла, якая памнажалася на працягу дваццаці стагоддзяў! І як некалі, так і сёння мы чытаем муку нашага Пана Езуса Хрыста. І гэта будзе абавязковае чытанне Касцёла ажно да моманту, калі змоўкне апошні плач пакрыўджанага на гэтай зямлі. Мы будзем чытаць яе ажно пакуль не скончыцца ўсякая несправядлівасць і перастане справядлівага. Бо ў муках і крыжы Хрыста заключана таямніца, якая ахінае кожную чалавечую слязу, кожнае цярпенне, якое патрабуе надзеі і суцяшэння. Без мукі Збаўцы і яе апісання ў Евангеллях свет, поўны болю, ужо даўно скаціўся б у бездань нямой роспачы. Прыслухоўваючыся да радкоў, прызначаных на Пальмовую нядзелю, мы вучымся будаваць надзею, якая абапіраецца на спрадвечны Божы план: цяжкі, які выціскае крывавы пот, па-людску незразумелы, як несправядлівы суд, але сапраўдны, таму што нясе жыццё.

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*

# Прысутнасці Бога патрабуе кожны чалавек

**СЛОВА РЭДАКТАРА**



*Кс. Павел Салабуда*

Мы перажываем перыяд Вялікага посту. Хрыстос прысутнічае сярод нас, Ён прыходзіць да чалавека праз крыж і пакуты. Пілігрымка Хрыста становіцца таксама нашай вандроўкай у напрамку, які нам паказвае Дрэва Крыжа. Мы становімся тады мацнейшымі, памятаючы пра тое, што кожны з нас закрануты грахом. Прыгадвае аб гэтым таксама св. Ян у сваім лісце: "Калі кажам, што не маем граху, ашукваем саміх сябе, і няма ў нас праўды" (1 Ян 1, 8).

Разважаючы над гэтымі словамі, мы зразумеем, што кожнаму з нас неабходна збаўленне, кожнаму з нас неабходны Бог. На жаль, закранутыя грахом мы не здольны самі збавіцца: "Бо ніхто не можа ні выкупіць самога сябе, ні аплаціць Богу цану свайго выкупу" (Пс 49, 8). Таму Пан Езус, вольны ад усялякага граху, жадаючы дабра і шчасця кожнаму з нас, аддае сваё жыццё. Ён з любові да чалавека выдае самога Сябе, каб вярнуць нам страчанае з-за граху вечнае жыццё. Гэта доказ таго, што міласэрны Айцец жадае нам дабра, якім з'яўляецца вольнае ад граху жыццё.

Прыгадаем сабе асноўную праўду: нават самаму заможнаму і ўплывоваму чалавеку для сапраўднага бясконцага шчасця неабходна прысутнасць Бога ў яго жыцці. Вялікі пост становіцца менавіта такім часам, які дае шанс наблізіцца да Бога праз малітву, пост і міласціну. І гэта не адзіныя сродкі да навяртання. Давайце пастараемся выключыць са свайго жыцця тое, што схіляе нас да зла, суцішымся, пастараемся выправіць зробленае зло, напрыклад з'яднаўшыся і "адрамантаваўшы" сапсаваныя адносіны з блізкімі. Гэта таксама будуць канкрэтныя крокі да навяртання. Мы баімся ўсвядоміць, што паміраем унутрана, што ствараем сабе ілюзію цудоўнага жыцця, нягледзячы на праблемы.

**Давайце запросім у гэтыя дні да сябе, у сваё жыццё Езуса з крыжам і цярпеннем. Гэта будзе чарговая магчымасць, каб усвядоміць ісціны пра наша збаўленне, пра з'яднанне нас з Богам праз Хрыста, які прысутнічае ў жыцці кожнага з нас.**

# Лаздуны

## ДЭКАНАТ ІЎЕ

*Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі*




*Знешні выгляд парафіяльнай святыні*



*Інтэр'ер касцёла*

Касцёл пад тытулам святых апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша і святой Ганны быў заснаваны тут у 1576 г. па фундацыі князя Альбрэхта Станіслава Радзівіла як філіяльны ад суботніцкай парафіі. Святыня была кансэкравана толькі ў 1704 г. віленскім біскупам Бжастоўскім. Да 1757 г. касцёл абслугоўвалі дамініканцы. Калі знікла старажытная святыня, новы драўляны касцёл быў пабудаваны на сродкі віленскага біскупа суфрагана Тамаша Зяньковіча ў 1770–1775 гадах. Адзначаецца таксама капліца, заснаваная ў 1765 г. у Лаздунах на сродкі старосціны пінскай Ельскай. Пры касцёле дзейнічала школа.

Некаторыя звесткі падаюць, што апошні драўляны касцёл быў пабудаваны ў 1852 г. на сродкі пана Самуэля Воўка, аднак ён памёр каля 1850 г., а па дакументах, якія захоўваюцца ў парафіі, касцёл быў пабудаваны ў 1853 г. на сродкі ўладальніка Лаздунаў пана Аскара Мілеўскага. Гэта былаадносна невялікая святыня на бутавым падмурку з дзвюма сакрыстыямі пры прэзбітэрыі, крытая гонтай і завершаная вежай-сігнатуркай над уваходам і крыжам над алтарнай часткай даху. У святыні было тры алтары: галоўны з абразамі Найсвяцейшай Тройцы і св. Ганны, правы бакавы – св. Антонія, левы бакавы – св. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша. Падлога была цаглянай, хоры над уваходам абапіраліся на чатыры слупы. Каркасная званіца на чатырох слупах стаяла асобна, у ёй змяшчаліся два званы. Касцёльная тэрыторыя была абнесена бутавай агароджай, уваход з вуліцы быў пазначаны цікавай трохпралётнай цаглянай і атынкаванай брамай, зробленай з элементамі стылю барока.

Гэты касцёл, верагодна, знік недзе на мяжы XIX–XX стст., таму што на вядомым фотаздымку пачатку XX ст. за касцёльнай брамай зафіксаваны, хутчэй, нейкі часовы будынак, чым сапраўдная святыня.

У 1904 г. у Лаздунах на сродкі парафіян, намаганнямі кс. Францішка Мацкевіча пачалі ўзводзіць велічны касцёл з бутавага каменю і вонкавай чырвонай цэглы ў стылі неараманікі. Праз 5 гадоў святыня ўзнесла свае высокія вежы над вёскай. У 1910 г. касцёл быў кансэкраваны пад гістарычным тытулам св. апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша (тытул св. Ганны больш не ўжываўся), з таго часу Лаздуны становяцца цэнтрам самастойнай парафіі.

Цяпер святыня дзвюхвежавая, прамавугольная ў плане з пяціграннай апсідай, фланкаванай двухпавярховымі сакрыстыямі, перакрытая двухсхільным дахам з вальмамі над прэзбітэрыем. Над алтаром кампазіцыя завершана вежачкай-сігнатуркай, галоўны фасад фланкаваны дзвюма трох'яруснымі шатровымі вежамі-званіцамі. Сцены па перыметры ўмацаваны плоскімі контрфорсамі.

Інтэр'ер падзелены на тры навы трыма парамі калон і перакрыты крыжастым скляпеннем на падпружных арках, размаляваных раслінным арнаментам. Сёння ў касцёле тры разьбяныя алтары ў стылі неаготыкі: галоўны – св. апостала Юды Тадэвуша (алтар уяўляе сабою трыфорыум, у цэнтры якога змешчана фігура святога ў акружэнні трошкі меншых фігур св. апосталаў Пятра і Паўла), левы бакавы – св. Ганны і правы – Маці Божай Чанстахоўскай. Над нартэксам зроблены хоры. У маленькай крыпце пад падлогай пахаваны кс. Фелікс Пяткевіч (+1920).

Перад Другой сусветнай вайной колькасць вернікаў лаздунскай парафіі перавышала 6000 чалавек.

У пасляваенны час пробашч парафіі кс. Дыянізій Захажэўскі быў арыштаваны і сасланы ў лагер, а святыню калгасныя ўлады зачынілі і ператварылі ў збожжасховішча. Тым не менш, касцёл быў залічаны да помнікаў архітэктуры. У 1988 г. святыня была вернута вернікам. Па-за касцёлам, у драўляным будынку, утвораны катэхетычны цэнтр парафіі. Да лаздунскай парафіі належаць капліцы ў Вікшнянах, Гудзянятах, Лаздунах-2, Яськавічах і прыдарожная ў Бачэшніках.

# ПАСЛАННІК ПАПЫ Ў БЕЛАРУСІ

*Дзяржаўны Сакратар Апостальскай Сталіцы кардынал П'етра Паралін прыбыў у Беларусь з афіцыйным візітам па запрашэнні беларускіх улад. Дзяржаўны Сакратар з'яўляецца галоўным супрацоўнікам Папы ў справе кіравання паўсюдным Касцёлам і прадстаўляе ў пэўных умовах асобу самога Пантыфіка. Гэта другі падобны візіт у сучаснай гісторыі Беларусі: у 2008 г. краіну наведваў Дзяржаўны Сакратар кардынал Тарчызіа Бертонэ.*

• працяг са с. 1

Гаворачы пра наказы, дадзеныя яму Святым Айцом перад візітам у Беларусь, Дзяржаўны Сакратар адзначыў: *“Папа Францішак казаў мне, што маё пасланне – перадаць блізкасць Пантыфіка гэтаму Касцёлу і дапамагчы яму справіцца з новымі выклікамі, якія ўзнікаюць на яго шляху. Асаблівую заклапочанасць Папы выклікае неабходнасць быць уважлівымі ў дачыненні да самых слабых, самых уразлівых слаёў насельніцтва – тых, якія пакутуюць, тых, якія патрабуюць дапамогі і суцяшэння. Менавіта такімі былі наказы, якія я атрымаў ад Святога Айца”.* Іерарх таксама адзначыў, што яго візіт у Беларусь у якасці прадстаўніка Святога Айца – гэта прызнанне Беларусі і каталіцкага Касцёла ў нашай краіне з боку Апостальскай Сталіцы і Святога Айца. Скіроўваючы ў Беларусь свайго Дзяржаўнага Сакратара, папа Францішак імкнецца выказаць глыбокую павагу да беларускага народа і праз свайго бліжэйшага супрацоўніка з'яднацца ў малітве з беларускімі католікамі.




Дзяржаўны Сакратар папы Францішка з падарункамі ад маленькіх вернікаў

### Каталіцкія біскупы запрасілі папу Францішка наведаць Беларусь

Сустрэча Дзяржаўнага Сакратара папы Францішка кард. П'етра Параліна з каталіцкімі біскупамі Беларусі праходзіла ў курыі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. У ёй прынялі ўдзел усе члены Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі і Апостальскі візітатар для грэка-католікаў Беларусі архімандрыт Сяргей Гаек.

Падчас сутрэчы кард. Паралін падкрэсліў, што Святы Айцец вельмі ўсешаны ў сувязі з заснаваннем Мінскай тэалагічнай акадэміі імя св. Яна Паўла ІІ. Асаблівая ўвага была прысвечана душпастарству моладзі як надзеі Касцёла. Разглядаліся таксама адносіны паміж дзяржавай і Касцёлам, дзе, як адзначалася, бачны прагрэс, аб чым сведчыць, між іншым, і візіт Дзяржаўнага Сакратара. Было падкрэслена, што экуменічныя адносіны ў Беларусі добрыя і развіваюцца.

Падчас сустрэчы беларускія біскупы праз кард. П'етра Параліна запрасілі Папу Францішка наведаць Беларусь з пастарскім візітам. Звяртаючыся з прывітальным словам да госця, Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі абп Тадэвуш Кандрусевіч узгадаў: *“Гэта вялікая радасць для нас, бо ў Вашай асобе мы хочам бачыць асобу папы Францішка. Раней мы чакалі, што нашу краіну наведае святы Ян Павел ІІ – чалавек, які адрадзіў структуры каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Не змог прыбыць да нас і Бенедыкт XVI. Сёння мы шчаслівыя, што Вы сярод нас, але спадзяёмся, што ўсё ж такі да нас прыедзе і папа Францішак”.* Акрамя гэтага, Мітрапаліт, узгадваючы пра абвешчаны Святым Айцом 13 сакавіка Год міласэрнасці, выказаў пажаданне: *“Няхай у гэты год Божая міласэрнасць пральецца і на нашу зямлю!”.*

Затым да Дзяржаўнага Сакратара Яго Святасці звярнуўся старшыня ККББ біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. *“Прыезд такога блізкага супрацоўніка Святога Айца Францішка мы разумеем як красамоўны знак клапатлівай увагі і бацькоўскай любові, якімі Наступнік святога Пятра адорвае каталікі Касцёл у Беларусі. Ваш візіт з'яўляецца таксама пацвярджэннем натуральнай і непарыўнай сувязі, якая злучае каталіцкі Касцёл у нашай краіне з Апостальскай Сталіцай і з асобай Святога Айца”*, – звярнуў увагу бп Кашкевіч.

### “Ад вашага адказу залежыць ваша вера, ваша будучыня і будучыня вашай краіны”

Адным з пунктаў візіту Дзяржаўнага Сакратара Апостальскай Сталіцы стала сустрэча з каталіцкай моладдзю Беларусі, якая сабралася ў мінскім касцёле святых Сымона і Алены разам са сваімі душпастарамі на Міждыяцэзіяльным велікапосным чуванні.

*“Беларусь чакае Папу”* і *“На Беларусі Бог жыве!”* – такія словы дадаваліся да моцных прывітальных апладысментаў маладых людзей, адрасаваных кард. Параліну, які прыбыў, каб разам з моладдзю перажыць час малітвы і падрыхтоўкі да Уваскрасення Пана.

Начная супольная малітва для моладзі з удзелам найбліжэйшага супрацоўніка Пантыфіка кард. П'етра Параліна распачалася своеасаблівым знаёмствам моладзі і высокага госця з Ватыкана. Яно праходзіла ў форме прэзентацый хрысціянскага жыцця моладзі кожнай з дыяцэзій. Першае слова належала біскупам, а потым выступіла моладзь разам са сваімі душпастарамі. Творчая моладзь вітала кардынала спевам, пантанімай, а таксама сваёй шчырасцю і праўдзівасцю, калі дзялілася гісторыямі асабістага пошуку і прыйсця, вяртання да Бога.

Пасля знаёмства ўдзельнікаў (а іх зарэгістравалася 986 асоб) з кардыналам распачалася святая Імша. У гамiлii іерарх папрасіў моладзь прыгадаць мучанікаў сваёй краіны, сярод якіх, магчыма, іхнія бабулі і дзядулі, якія змагаліся за захаванне веры. Ён таксама дадаў, што *“нават мучанікі не з'яўляюцца сумным успамінам, таму што ў вялікіх пакутах яны яшчэ мацней адчувалі, што Бог іх любіць”.*




Падчас св. Імшы кардынал паабяцаў, што кожны дзень будзе маліцца за ўсіх дзяцей Беларусі, каб яны маглі шчасліва будаваць сваю будучыню

Кардынал заклікаў маладых людзей быць уважлівымі і асцерагацца, каб ніхто не змог падрэзаць ім крылы ілжывымі каштоўнасцямі і імкненнямі, якія адкідаюць Бога: *“Ваш народ вядомы сваёй дабрынёй і пакорай. Але калі вы дазволіце падкупіць сябе ілжывым вобразам, якія часта прыходзяць да нас, – мужчыны і жанчыны, якія маюць поспех толькі дзякуючы часовай знешняй прыгажосці, папулярнасць, што ў іншых выклікае зайздрасць, людзі, гатовыя на ўсё дзеля грошай – у такім выпадку ёсць небяспека, што вашыя натуральныя каштоўнасці будуць пашкоджаны. Тут вы павінны выбраць, як некалі народ Ізраэля, паміж Богам і ідаламі, паміж Тым, хто стварыў і любіць вас, і маленькімі рэчамі, якія могуць зрабіць вас сваімі нявольнікамі. Ад вашага адказу залежыць ваша вера, ваша будучыня і будучыня вашай краіны”.*

Напрыканцы св. Імшы прадстаўнікі ўсёй беларускай моладзі падзякавалі кардыналу за ўдзел у чуванні і прамоўленае слова.

### “Няхай вашы дзеці складаюць народ свабодных і сумленных людзей”

15 сакавіка ў архікатэдральным касцёле Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мінску Дзяржаўны Сакратар папы Францішка кард. П'етра Паралін узначаліў св. Імшу з удзелам дзяцей. Апрача біскупаў і святароў на ўрачыстую Імшу былі запрошаны прадстаўнікі розных хрысціянскіх супольнасцей і канфесій, прысутнічала таксама вельмі вялікая колькасць вернікаў.

У гамiлii кардынал адзначыў: *“Папа вельмі хацеў бы быць сярод вас, але ж акалічнасці пакуль што не дазваляюць, каб гэтае ягонае і вашае агульнае жаданне здзейснілася”.* Аднак іерарх дадаў, што Святы Айцец паслаў яго менавіта для таго, каб выказаць павагу і добразычлівасць, якую ён мае да беларускага народа.

Кардынал распавёў, што ўражаны тым болем, які беларускі народ перажываў зусім нядаўна, калі быў пазбаўлены права мець сваіх духоўных праваднікоў, калі быў вымушаны бараніць сваю веру, і часам вельмі высокім коштам. Бліжэйшы супрацоўнік Папы назваў гэты шлях крыжовым шляхам беларускага народа і сказаў, што Папа салідарны з народам, які столькі цярпеў і страціў. Беларускі народ іерарх параўнаў з Божай Маці, якая стаіць пад крыжам скатаванага Сына.

Таксама кард. П'етра Паралін прасіў памятаць пра той прыклад, які трэба даваць маладым, якімі поўніцца Касцёл у Беларусі, і найменшым – дзецям. *“Дзеці – гэта самае каштоўнае і далікатнае з таго, што мы маем. Я абяцаю, што кожны дзень буду маліцца за гэтых дзяцей і за ўсіх дзяцей Беларусі, каб яны маглі шчасліва гуляць і будаваць сваю будучыню з надзеяй, каб любілі жыццё і мелі мужнасць жыць да самага канца без страху, без унутранай пусткі, без ляноты, каб не мусілі прадаваць сваю годнасць, такую каштоўную ў Божых вачах. Няхай Бог будзе іх моцай, а яны самі няхай ажыўляюць Касцёл і ствараюць народ, які складаецца са свабодных, сумленных, адданых справе і поўных энтузіязму людзей”.*

### На афіцыйным узроўні

У межах свайго візіту ў Беларусь Дзяржаўны Сакратар Яго Святасці папы Францішка прыняў удзел у шэрагу афіцыйных сустрэч. Кард. П'етра Паралін сустрэўся з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам. Прэзідэнт перадаў у дар Святому Айцу Францішку рукатворны абраз Беззаганнага Сэрца Панны Марыі. Пасланнік Святога Айца наведаў таксама Нацыянальны сход Рэспублікі Беларусь, усклаў вянкі да манумента на плошчы Перамогі ў Мінску, сустрэўся з Міністрам замежных спраў Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Макеем, з прэм'ер-міністрам Андрэем Кабяковым, а таксама з Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Мітрапалітам Мінскім і Заслаўскім Паўлам.

З нагоды візіту сакратара папы Францішка была арганізавана прэс-канферэнцыя. Падчас сутрэчы з журналістамі кард. Паралін падкрэсліў, што Беларусь можа стаць прыкладам гарманічнага суіснавання прадстаўнікоў розных культурных і рэлігійных традыцый. *“Я думаю, што яна можа служыць мадэллю для нашага свету, які пакутуе ад канфліктаў, калі гэтыя адрозненні замест таго, каб станавіцца крыніцамі ўзаемнага ўзбагачэння, становяцца крыніцамі варожасці і насілля”*, – сказаў кардынал.

Кажучы пра тое, ці магчымы візіт папы Францішка ў Беларусь, кардынал паведаміў: *“Сапраўды, ёсць вельмі вялікае жаданне каталіцкіх вернікаў Беларусі вітаць Папу на беларускай зямлі, я магу гэта канстатаваць. Каталіцкая супольнасць у Беларусі заслугоўвае візіту Пастыра паўсюднага Касцёла – як з улікам таго досведу пакут, якія перанесла гэтая супольнасць, так і з улікам яе ўкладу ў аднаўленне, адраджэнне і развіццё рэлігійнага жыцця ў краіне”.*

У межах свайго візіту ў Беларусь кард. Паралін асвяціў першы камень будынка Апостальскай нунцыятуры ў Мінску, а таксама прыняў удзел ва ўрачыстым прыёме з нагоды другой гадавіны абрання папы Францішка на Пасад святога Пятра.

**Паводле catholic.by**

---

СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### Папа Францішак



*У перыяд Вялікага посту мы рыхтуемся да цэлебрацыі Вялікадня (Пасхі), падчас якой мы адновім свае хросныя абяцанні. Вандруючы па гэтым свеце, як Езус, і робячы з нашага існавання знак Яго любові да братоў, асабліва самых слабых і самых бедных, мы будуем святыню Бога ў нашым жыцці. Так мы можам многім людзям, якіх спаткалі на сваім шляху, даць магчымасць сустрэчы з Езусам. Але запытайма самі сябе, ці сапраўды Бог адчувае сябе ў нашым жыцці, як дома? Ці дазваляем мы Яму “навесці парадак” у нашых сэрцах і выкінуць бажкоў (нашы пэўныя паставы і да т.п.), якія, магчыма, глыбока ўкараніліся ў нас?*

*Кожная Эўхарыстыя, якую мы цэлебруем з верай, прыводзіць да таго, што мы ўзрастаем як жывая святыня Пана, праз камунію з Яго Целам, укрыжаваным і ўваскрослым. Езус ведае, што ёсць у кожным з нас, і ведае таксама наша самае гарачае жаданне – жаданне, каб Ён у нас пасяліўся, толькі Ён.*

*Анёл Пансксі са Святым Айцом, 08.03.2015*

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*Мы маем вялікі прывілей расці як дзеці Божыя ад моманту нашага хросту, бо мы нарадзіліся і раслі не на бязлюдным пустынным востраве, куды вера яшчэ не дайшла. Быццё дзецьмі Божымі – гэта такая вялікая ласка, што мы не можам знайсці слоў, каб выказаць нашу ўдзячнасць Богу за Яго шчодрасць учыніць нас членамі сваёй сям'і.*

*Гэта вялікі дар і адначасова абавязак – дзейнічаць згодна з Божай воляй. Аднак вельмі часта мы забываемся аб тым, што з'яўляемся дзецьмі Божымі, і становімся не сапраўднымі, а штучнымі хрысціянамі. У мітусні штодзённых спраў мы спяшаемся праз жыццё, не думаючы, кім з'яўляемся і куды ідзём.*

*Фрагмент гамілii на III Нядзелю Вялікага посту*




◆ *У Паўднёвай Карэі кожны год у сярэднім каля 100 тысяч дарослых прымаюць хрост у каталіцкім Касцёле, што ў адносінах да колькасці вернікаў ставіць гэтую краіну на першае месца ў свеце. Аб дынамічным развіцці хрысціянства ў Паўднёвай Карэі сведчыць факт, што калі ў 1960 г. гэтую рэлігію вызнавала толькі 2% яе жыхароў, то на сённяшні дзень каталікам сябе лічыць кожны трэці грамадзянін. Сярод 48-мільённага насельніцтва гэтай краіны католікаў сёння 5,3 мільёны, ці звыш 10%. Колькасць святароў у той жа час павялічылася з 250 да больш за 5 тысяч. У адносінах да колькасці сваіх членаў, паўднёвакарэйскі Касцёл мае больш за ўсё катэхуменаў.*

◆ *Хрысціяне ў Чэхіі дадуць прытулак хрысціянскім сем'ям з Сірыі і Ірака. На заклік пад дэвізам: "Брат – гэта больш чым бліжні", адказала ўжо больш за 1500 сямей, асобных людзей, а таксама цэлых парафій ці збораў, якія выказалі гатоўнасць аказаць дапамогу выгнаным хрысціянскім сем'ям з малымі дзецьмі. Узнік таксама фонд "Generace 21", які збірае сродкі для бежанцаў, што прыбудуць у Чэхію. Вырашана, што спачатку Чэхія ўдзеліць прытулак 15 сем'ям, але калі гэтая ініцыятыва апраўдае сябе, можна будзе прыняць чарговых праследуемых хрысціян з Блізкага Усходу.*

◆ *Хрысціянскія бежанцы з Ірака напісалі Папе хвалюючы ліст. У ім яны падкрэсліваюць, што лепш будуць выгнаннікамі на чужыне, чым адракуцца ад веры ў Хрыста. Ліст Папе перадаў кс. Рыфат Бадэр з Іярданіі. На тэрыторыі яго парафіі ў Наўры знайшлі прытулак праследуемыя хрысціяне. Як сказаў сам святар, ён атрымаў ад гэтых людзей урок веры.*

◆ *Сталая рада епіскапата Іспаніі падае, што ў 70-ці дыяцэзіях Іспаніі працуе 19 тысяч святароў. Аднак іх сярэдні ўзрост дастаткова высокі – каля 65 гадоў. Самыя "маладыя" дыяцэзіі – гэта Алькала-дэ-Энарэс (52,25), Хетафэ (53,48) і Таледа (53,37). У 18-ці дыяцэзіях сярэдні ўзрост святароў не перавышае 60 гадоў. А ў 11-ці складае больш за 70 – гэта на дзве дыяцэзіі больш, чым у мінулым годзе. Горш за ўсё ў баскскай дыяцэзіі Сан-Себасцьян, дзе сярэдні ўзрост святароў складае больш за 74 гады (74,4). Складаная сітуацыя пануе таксама ў каталонскіх дыяцэзіях.*

*stacja7.pl; katolik.ru; Ватыканскае радыё; credo-ua.org.*

***Кс. Ян Раманоўскі***

# Прыклад любові, мацнейшай за смерць

*Перыяд Вялікага посту з'яўляецца часам пакаяння і навяртання сэрца, часам сталай адданасці Богу. Мы скіроўваем свае позіркі на Укрыжаванага, які дзеля нас адрокся ад усяго і склаў у ахвяру сваё жыццё. Мы прымаем у гэты перыяд розныя пакаянныя практыкі і робім добрыя пастановы, каб ачысціць і захаваць зерне любові, пасаджанае ў нас Хрыстом. Варта таксама ў гэты час пазнаёміцца з гісторыямі святых, якія з'яўляюцца нібы маяком на шляху да паяднання са Збаўцам.*



**Як прыклад трыумфу Божай любові хацелася б прывесці гісторыю адзінаццаці бласлаўлёных сясцёр мучаніц з Навагрудка, 15-я гадавіна беатыфікацыі якіх прыпала на 5 сакавіка 2015 года.**

Першыя назарэтанкі прыбылі ў Навагрудак 4 верасня 1929 г. па запрашэнні б-па Зыгмунта Лазінскага, каб заняцца рэлігійным выхаваннем і навучаннем дзяцей і моладзі. Супольнасць з дванаццаці сясцёр служыла шматнацыянальнаму грамадству горада. У Навагрудку жылі палякі, беларусы, яўрэі і татары, якія стваралі маляўнічае, культурна багатае і гарманічна існуючае грамадства. Дэмаграфія гэтай мясцовасці паспрыяла таму, што паслуга сясцёр мела экуменічны характар.

Сёстры спачатку заснавалі інтэрнат, а затым ад 2 верасня 1930 г. у арэндаваным памяшканні пачала дзейнічаць школа. На працягу васьмі месяцаў намаганнямі супольнасці сясцёр і жыхароў горада была пабудавана ўсеагульная школа. Першай апостальскай справай сясцёр, якая пэўным чынам абумоўлівала адукацыйную дзейнасць, была праца, звязаная з касцёлам Перамянення Пана, называным Белай фарай, які з'яўляўся важным цэнтрам рэлігійнага ўздзеяння на жыхароў горада і ваколіц.

З пачаткам ІІ Сусветнай вайны справы пачалі развівацца трагічна. Спачатку савецкая акупацыя, потым нямецкая. З-за рэпрэсій сёстры былі вымушаны пакінуць кляштар і школу і ўзяцца за аплачваемую працу ў горадзе.

Акупацыйны тэрор пасля захопу гэтых зямель немцамі распачаўся вынішчэннем яўрэяў, пасля чаго адбылася хваля арыштаў польскага насельніцтва, а затым масавы расстрэл шасцідзесяці чалавек, у тым ліку двух святароў.

Сёстры, якія з самага пачатку прымалі актыўны ўдзел у жыцці навагрудчан, не маглі застацца абыякавымі да інфармацыі пра чарговыя хвалі рэпрэсій, накіраваныя на жыхароў горада і ваколіц. Адкрытыя на патрэбы людзей у мірны час, яны з яшчэ большай стараннасцю служылі іншым падчас ваеннай акупацыі. Сёстры суцяшалі жыхароў Навагрудка, якія трацілі сваіх блізкіх у расстрэлах і ссылках. Навагрудская Белая фара стала месцам нястомнага ўсклікання люду да свайго Бога. Вечарамі перад выстаўленым Найсвяцейшым Сакрамантам вернікі разам з ксяндзом і сёстрамі маліліся Ружанцам. Эўхарыстыя, якую штодзённа цэлебраваў кс. Аляксандр Зенкевіч, і малітвы сясцёр у фарным касцёле сталі для змучанага грамадства прастора надзеі сярод змроку пануючага зла.

Нямецкія акупанты раз-пораз арганізоўвалі "пакаральныя" расстрэлы, каб напалохаць усіх, хто нейкім чынам спрабуе супраціўляцца. Падобная акцыя адбылася 18 ліпеня 1943 г., калі было арыштавана 120 чалавек. Іх намерваліся расстраляць. Менавіта тады сёстры назарэтанкі супольна прынялі рашэнне ахвяраваць сваё жыццё за арыштаваных. Яны шмат часу праводзілі на малітве ў фарным касцёле, а праз два дні пасля чарговых арыштаў настаяцельніца супольнасці маці Стэла Мардасевіч ад імя ўсіх сясцёр прамовіла перад капеланам кс. Аляксандрам Зенкевічам знамянныя словы: "Божа мой, калі неабходна ахвяра з жыцця, няхай лепш нас расстраляюць, а не тых, хто мае сем'і – мы молімся аб гэтым". Праз некалькі дзён з'явілася чарговая небяспека, што закранула адзінага святара ў ваколіцы, імя якога аказалася ў спіску прыгавораных. Кс. Зенкевіч так успамінаў праз гады: "Праз пару дзён пасля адыходу транспарту з вязнямі, калі я, паглыблены ў смутак, з цяжарам на сэрцы, якому супярэчыла цудоўнае летняе надвор'е, стаяў на парозе закрыстыі, да мяне падышла маці Стэла і зноў з прастатой, годнай вялікіх часоў, сказала мне без прадмоў і падабраных слоў (словы былі тады дастаткова слабым сродкам, каб перадаць свае думкі і перажыванні): «Божа, мой Божа, ксёндз значна больш патрэбны на гэтым свеце, чым мы, таму мы молімся зараз аб тым, каб Бог лепш нас забраў, чым Вас, калі неабходна далейшая ахвяра»".

Бог прыняў гэтую ахвяру.

31 ліпеня 1943 г. адзін з гестапаўцаў загадаў сёстрам з'явіцца вечарам у 19.30 у камісарыяце. Пасля ружанцовага набажэнства адзінаццаць сясцёр назарэтанак на чале з настаяцельніцай накіраваліся ў гестапа. Горшым, на што яны маглі спадзявацца, быў вываз на прымусовыя працы ў Германію. Дома засталася дванаццатая з іх, с. Маргарыта Банась, якая працавала ў шпіталі. Вяртаючыся з працы, яна сустрэла сясцёр, што ішлі ў камісарыят. Хацела далучыцца да іх, але настаяцельніца сказала ёй вярнуцца ў кляштар і паклапаціцца пра касцёл і ксяндза.

Сясцёр ні ў чым не абвінавачвалі, не праводзілі ніякае следства. Яны правялі ноч на малітве, замкнутыя ў невялікім падвале камісарыята.

У нядзелю 1 жніўня 1943 г. на світанні гестапаўцы вывезлі сясцёр і расстралялі ў невялікім бярозава-сасновым лесе, на адлегласці 5 кіламетраў ад Навагрудка. Перад смерцю сёстры ўкленчылі, маліліся, развіталіся адна з адной. Настаяцельніца блаславіла кожную. Апошні ўдар яны прынялі на каленях.

Акалічнасці мучаніцтва сясцёр вядомы з фрагментарных выказванняў удзельнікаў расстрэла. Адзін з гестапаўцаў у пэўны момант схапіўся за галаву і сказаў: "Ах, як яны ішлі, трэба было бачыць, як яны ішлі!". Калі ў яго спыталі, хто ішоў, адказаў: "Сёстры". Іншым разам ён сказаў: "Так, яны безумоўна былі бязвінныя".

Як кс. Зенкевіч, так і вязні ацалелі. Іх вывезлі на працы ў рэйх, а некаторых адпусцілі.

Пасля адступлення немцаў і заняцця Навагрудка савецкімі войскамі, 19 сакавіка 1945 г. адбылася эксгумацыя сясцёр і пахаванне іх астанкаў у магіле пры Фары. У 1991 г. у Варшаве распачаўся беатыфікацыйны працэс слуг Божых Марыі Стэлы і дзесяці паплечніц.

5 сакавіка 2000 г. папа Ян Павел ІІ беатыфікаваў адзінаццаць мучаніц з Навагрудка. Падчас гаміліі ён сказаў: "Бог стаў сапраўднай апорай і ўмацаваннем таксама для мучаніц з Навагрудка: бласлаўлёнай Марыі Стэлы – Адэлі Мардасевіч – і дзесяці яе паплечніц з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта – назарэтанак".

Адкуль яны мелі сілы, каб ахвяраваць сябе ўзамен за выратаванне жыцця арыштаваных жыхароў Навагрудка? Адкуль чэрпалі адвагу, каб спакойна прыняць такі жорсткі і несправядлівы прысуд? Бог паступова рыхтаваў іх да гэтай хвіліны найважнейшага выпрабавання. Зерне ласкі, кінутае на глебу іх сэрцаў у хвіліну святога хросту, а затым прарошчваемае з вялікім клопатам і адказнасцю, украпілася глыбока і выдала самы цудоўны плод, якім з'яўляецца дар з уласнага жыцця. Хрыстос кажа: "Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх" (Ян 15, 13). Так, няма большай любові за тую, якая гатова аддаць жыццё за братоў.

Смерць сясцёр была гераічным жэстам любові, сведчаннем веры ў Бога, які першы нас палюбіў. Мучаніцы з Навагрудка з'яўляюцца самым каштоўным і нятленным скарбам, прыкладам хрысціянскага гераізму і моцы Святога Духа, які слабых, звычайных жанчын робіць здольнымі даваць сведчанне пра Хрыста і ахвяраваць жыццё "за сяброў сваіх" (Ян 15, 13).

Ахвяра жыцця сясцёр актуальная праз многія гады пасля іх мучаніцкай смерці. З верай ва ўсё яшчэ жывы плён іх мучаніцтва, давайце даручым заступніцтву бл. Марыі Стэлы і дзесяці паплечніц – назарэтанак з Навагрудка свае асабістыя і сямейныя праблемы і клопаты, давайце папросім праз іх заступніцтва, каб час Вялікага посту перамяніў нас і паглыбіў у перамогу Хрыста.

***Апрацавала с. Ірына Руцкая***

# Ніколі не заблукае той, хто размаўляе з Богам




***Сёння сваю гісторыю распавядае сястра Элігія з Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці.***

## Я была дзіцём за пакуту

*"Падчас місій мой бацька пайшоў да сакраманту споведзі і атрымаў незвычайную пакуту, каб у нашай сям'і нарадзілася яшчэ адно дзіця. Так я і прыйшла на свет",* – расказвае сястра Элігія.

У 1960 годзе недалёка ад польскай граніцы, у горадзе Бяла-Падляска, у сям'і працоўных Яна і Ганны нарадзілася трэцяе дзіця, дзяўчынка. Сама яна жартаўліва называла сябе знаходкай, бо мела нашмат старэйшых сястру і брата.

Маці была праваслаўнай, але на шлюбе перайшла на каталіцкую веру. Была вельмі ўдзячная свайму мужу за штодзённы прыклад сапраўднага католіка. Ён быў добрым сужэнцам і татам для іх дзяцей.

*"Я ніколі не чула, каб бацькі сварыліся ці нават размаўлялі адзін з адным на павышаных танах. Калі я была ўжо дарослая, маці ўспамінала, што час ад часу яны з татам мелі нейкія непаразуменні, але перад дзецьмі нічога не вырашалі. У хаце панавалі супакой і ўзаемапавага".*



*С. Элігія з абразом св. Міхала Арханёла – падарункам ад ксяндзоў міхалітаў*

## Марыла трапіць у Чанстахову

*"З дзяцінства я вельмі любіла Маці Божую Чанстахоўскую. Размаўляла з Ёю, але нікому пра гэта не казала. Толькі Яна ведала ўсе таямніцы майго сэрца. Гэта была душа маёй душы! Памятаю, я марыла трапіць на Ясную Гару і запаліць там аліўныя свечкі…".*

Такія глыбокія памкненні дзяўчынка перажывала ў пачатковай школе. Праз малітву і жывыя спатканні з Маці Божай яе духоўнае жыццё развівалася.

*"Я заўсёды кажу, што мала бачыць аблічча Езуса і Марыі на абразах. Трэба размаўляць з Імі як з найлепшымі сябрамі, якія знаходзяцца побач з намі. І тады чалавек ніколі не заблукае, не пойдзе няправільнай дарогай".*

У юнацтве дзяўчына мела сяброў, блізкіх сэрцу людзей. Але ўнутраны голас далікатна казаў, што ў яе іншы шлях.

Пасля агульнаадукацыйнай школы дзяўчына сабралася ў манастыр. Аднак брат папрасіў сястру на нейкі час застацца дома і дапамагчы бацькам па гаспадарцы. На свой дваццаты дзень нараджэння, 17 студзеня 1980 года, дзяўчына ўступіла ў манастыр.

*"Расцэньваю гэта як запрашэнне, на якое адказала згодай".*

## Я была першай

З роднай парафіі сястры Элігіі яшчэ не было ніводнай манахіні – дзяўчына стала першай. Адразу пачала маліцца ў інтэнцыі вернасці пакліканню: каб ніколі не пакінуць манастыр. І была самай шчаслівай.

Пасля двух тыдняў пастулятy настаяцельніца адправіла яе ў Каледж дашкольнага выхавання. Пасля атрымання дыплому сястра на працу 12 гадоў працавала з дзецьмі-інвалідамі ў адным са старэйшых гарадоў Польшчы – Калішы. Апроч таго, працавала ў закрытым Школьна-выхаваўчым цэнтры для дзяўчат у Кракаве. А ў 1987 годзе ў Валендаве каля Варшавы сястра Элігія склала вечныя шлюбы.

*"Калі настаяцельніца дала мне імя Элігія, я нават не адразу яго запомніла (усміхаецца – заўв. аўт.). Праз час даведалася, што маім заступнікам з'яўляецца святы Элігій, які спачатку быў каралеўскім ювелірам і майстрам манетнага двара, а потым усё кінуў і пайшоў у манастыр".*

## Маё сэрца тут, у Беларусі

Сястра Элігія прыехала ў Беларусь у 1992 годзе па запрашэнні пробашча парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Шылавічах.

*"Касцёл тут яшчэ нічога не было: гліна і балота па костку. Касцёл толькі-толькі пачалі аднаўляць. Мы з трыма сёстрамі жылі ў людзей, ксёндз – у закрыстыі. Працавалі разам з пробашчам і парафіянамі".*

Генеральная настаяцельніца адпраўляла сястру ў Шылавічы на месяц, але ён, як бачна, расцягнуўся аж да гэтай пары. Большую частку свайго жыцця сястра Элігія правяла тут, у Гродзенскай дыяцэзіі.

*"Не часта бываю ў Польшчы: езджу наведваць родных. Але ненадоўга, бо цягне назад. Кажу шчыра, нават не ўяўляла, што так палюблю гэтую краіну. Аднак сэрца маё ўжо тут, у Беларусі…".*

***Ангеліна Пакачайла***



# ПАСХАЛЬНЫ ТРЫДУУМ

## ВЯЛІКІ ЧАЦВЕР

У ГЭТЫ ДЗЕНЬ АЖЫЦЦЯЎЛЯЕЦЦА СВ. ІМША ХРЫЗМА, ЦЭЛЕБРАВАНАЯ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ КАСЦЁЛЕ БІСКУПАМ І ПРЭЗБІТЭРАМІ ДАДЗЕНАЙ ДЫЯЦЭЗІІ.

У катэдральнай базіліцы ў Гродне св. Імша Хрызма адбудзецца а 10-й гадзіне. Падчас яе біскуп блаславіць алеі хворых і катэхуменаў і кансэкруе алей хрызма. Святары забіраюць новыя алеі ў свае парафіі, а старыя спальваюцца.

**Вечарам цэлебруецца ўрачыстая св. Імша Вячэры Пана.** Яна ажыццяўляецца ў памяць Апошняй Вячэры, падчас якой Хрыстос ахвяраваў Богу Айцу сваё Цела і сваю Кроў пад постацямі хлеба і віна.

## ВЯЛІКАЯ ПЯТНІЦА

У ГЭТЫ ДЗЕНЬ СВ. ІМШЫ НЕ ЦЭЛЕБРУЮЦЦА НА ЗНАК ВЯЛІКАЙ ПАШАНЫ ДА АХВЯРЫ ЕЗУСА ХРЫСТА НА КРЫЖЫ ЗА ГРАХІ ЎСЯГО СВЕТУ.

Вечарам у рымскім Калізеі пад кіраўніцтвам Папы адбываецца Крыжовы шлях.

**У цэнтры гэтага дня – літургія Мукі Пана.**

Адарацыя Крыжа з'яўляецца ўрачыстым адкрываннем крыжа *(закрытага часцей за ўсё ад пятай нядзелі Вялікага посту).*

У ГЭТЫ ДЗЕНЬ ПАЧЫНАЕЦЦА ТАКСАМА НАВЭННА ДА БОЖАЙ МІЛАСЭРНАСЦІ, ЯКАЯ Ў НАШАЙ ДЫЯЦЭЗІІ БУДЗЕ ПРАЦЯГВАЦЦА 9 ДЗЁН.

*Згодна са шматвяковай традыцыяй, на заканчэнне літургіі начынне з камунікантамі пераносіцца ў Гроб Панскі, дзе выстаўляюць Найсвяцейшы Сакрамант. У гэты дзень можна правесці разважанне Крыжовага шляху аб пакутах і збаўчай смерці Хрыста.*

## ВЯЛІКАЯ СУБОТА

У ВЯЛІКУЮ СУБОТУ КАСЦЁЛ ТРЫВАЕ ЛЯ ГРОБА ПАНА, РАЗВАЖАЮЧЫ ПАКУТЫ І СМЕРЦЬ ХРЫСТА. ЛІТУРГІЯ ПАСХАЛЬНАЙ ВІГІЛІІ НАЛЕЖЫЦЬ УЖО ДА НЯДЗЕЛІ ЎВАСКРАСЕННЯ ПАНА.

**Вернікі прыносяць у гэты дзень для асвячэння велікодныя стравы.**



# ПАСХАЛЬНАЯ ВІГІЛІЯ

## ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

ЛІТУРГІЯ ПАСХАЛЬНАЙ ВІГІЛІІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА НАЙВАЖНЕЙШАЙ ЦЭЛЕБРАЦЫЯЙ ЛІТУРГІЧНАГА ГОДА.

**Усе абрады Пасхальнай вігіліі адбываюцца ноччу з суботы на нядзелю.**

**Літургія святла.** Перад касцёлам святар асвячае агонь, ад якога запальваецца пасхал – сімвал Хрыста. Потым ксёндз уносіць запалены пасхал у святыню. Вернікі запальваюць ад яго полымя свае свечкі.

**Літургія слова.** У гэты дзень прадугледжана дзевяць біблейскіх чытанняў: сем старазапаветных, эпістола і Евангелле, якія пераплятаюцца рэспансарыйнымі псалмамі і малітвамі. Пасля апошняга чытання са Старога Запавету і малітвы святар пачынае спяваць гімн "Хвала на вышынях", падчас якога б'юць ва ўсе званы. Пасля ўрачыстага гімна цэлебрант гаворыць калекту. Потым лектар зачытвае эпістолу, а пазней спяваюць урачыстае "Алелюя" і рэспансарыйны псалом. Потым святар чытае Евангелле і абвяшчае гамілію.

**Літургія хросту.** Пасля гамілії адбываецца літургія хросту, падчас якой спяваецца Літанія да ўсіх святых. Затым цэлебрант блаславіць ваду для хросту, тройчы акунаючы ў ёй пасхал. Калі існуе такі звычай, удзяляе хрост катэхуменам і канфірмацыю моладзі.

**Эўхарыстычная літургія.** Яе ход падобны да эўхарыстычных літургій іншых нядзель. Цырымонію заканчвае ўрачыстая рэзурэкцыйная працэсія з Найсвяцейшым Сакрамантам, якая з'яўляецца радасным абвяшчэннем Уваскрасення Хрыста і заклікам да ўсяго стварэння ўдзельнічаць у трыумфе ўваскрослага Езуса.

*На Пасхальную вігілію вернікам трэба прынесці ў касцёл свечкі.*

**У касцёлах нашай дыяцэзіі працэсія адбываецца не пасля Пасхальнай вігіліі, а ў нядзелю перад першай св. ранішняй Імшой, т.зв. Рэзурэкцыяй. Яна пачынаецца ля Гроба Пана, дзе святар спевам абвяшчае Уваскрасенне Хрыста. Пасля вяртання ў касцёл спяваецца гімн "Хвала на вышынях". Пасля ўдзялення вернікам св. Камуніі спяваецца ўрачысты гімн "Te Deum" ("Цябе, Бога, праслаўляем"). Ад гэтай нядзелі крыж ля алтара аздоблены чырвонай стулай.**

# АБРАД ВЕЛІКОДНАГА СНЕДАННЯ Ў СЯМ'І

***На Вялікдзень пасля рэзурэкцыйнай святой Імшы сям'я збіраецца за ўрачыстым сняданкам вакол па-святочнаму накрытага стала, аздобленага зялёнымі галінкамі, вербавымі коцікамі, парасткамі пшаніцы, якія сімвалізуюць новае жыццё, атрыманае на святым хросце. У цэнтры стала ставіцца велікодны сямейны пасхал (ім можа быць аздобленая свечка), фігурка велікоднага ягняці і асвячонае. Снеданне трэба пачаць з супольнай малітвы аб Божым блаславенні, аб дарах Святога Духа для папы Францішка, аб ласцы навяртання для няверуючых, аб міры на зямлі, аб суцяшэнні для самотных і тых, хто пакутуе.***



А: Сапраўды Пан Уваскрос! Алелюя!

***Усе: Дзякуем Пану Богу! Алелюя!***

А: З радасцю сабраліся мы ў нашым сямейным асяроддзі, каб урачыста адзначыць успамін Уваскрасення нашага Пана, Езуса Хрыста. Я жадаю ўсім нам, каб супакой і радасць запанавалі ў нашых сэрцах, каб усе мы сведчылі сённяшняму свету аб уваскрослым Хрысце і паўсюдна абвяшчалі, што Пан сапраўды ўваскрос. Ахопім думкамі і сэрцам усіх нашых сваякоў і сяброў, жывых і памерлых, агорнем увесь свет і будзем прасіць:

***Усе: Ойча наш...***

*У канцы бацька моліцца:*

Божа, у сённяшні дзень Ты перамог смерць і адчыніў нам брамы вечнасці, дай нам удзельнічаць у перамозе Твайго Сына Езуса Хрыста над грахом, каб мы былі годныя прыняць удзел у Яго вечным жыцці. Які вечна жыве і валадарыць.

***Усе: Амэн.***

# ШТО ПАВІННА БЫЦЬ У ВЕЛІКОДНЫМ КОШЫЧКУ?

**Па традыцыі ў Вялікую суботу з самага ранку ва ўсіх касцёлах асвячаюць ежу на велікодны сняданак.**

**Сёння часцей за ўсё мы ідзём у касцёл з кошычкам. Паводле традыцыі, кошычак засцілаюць унутры белай сурвэткай, на якую пакладзена ежа для асвячэння. Ён павінен быць аздоблены, напрыклад, вербавымі коцікамі ці веснавымі кветкамі і прыкрыты белай сурвэткай. Кошычак для асвячэння ежы на Вялікдзень павінен быць прыгожы і адначасова просты. У яго неабходна пакласці асноўныя прадукты.**

**ХЛЕБ** асвячаецца як даніна памяці хлебу, які сышоў з неба, г.зн. Езусу, і дзеля ўвекавечання таго, як Ён накарміў цудоўным чынам натоўпы людзей, якія слухалі Яго навучанне. Мы кожны дзень просім Бога, каб Ён даў нам наш штодзённы хлеб. А калі ён ёсць у нас, дзякуючы Божай шчодрасці, то кладзём яго для асвячэння: звычайна некалькі лустаў, але некаторыя кладуць невялікі бохан. Некаторыя пякарні выраблюць спецыяльнае велікоднае печыва, аздобленае крыжыкам.

**ВЕЛІКОДНАЕ ЯГНЯ** – сімвал уваскрослага Езуса, а таксама пакоры і лагоднасці. Пастаўленае на стале велікоднае ягня прыгадвае пра тое, што Хрыстос збавіў людзей, якія прызначаны для вечнага балявання на свяце Божага Баранка.

Сёння велікодныя ягняты, якія ставяць на стол, зроблены часцей за ўсё з цукру. Усё радзей можна сустрэць спечаныя дома фігуркі ягнят з цеста, укладзенага ў чыгунную форму, яшчэ радзей – выцісьнутыя з масла (з драўлянай формы). Некаторыя ўпрыгожваюць стол гіпсавымі, фарфоравымі, шклянымі, глінянымі, пластмасавымі ці нават зробленымі з авечай воўны велікоднымі ягнятамі.

**ВЯНДЛІНА** з'яўляецца яскравым сімвалам дастатку і заможнасці сям'і. Асвячаюцца, галоўным чынам, мясныя вырабы са свініны. У велікодным кошычку павінны быць, перш за ўсё, кавалак кумпяка і вянок хатняй каўбасы. Можна таксама пакласці ў кошык кавалак грудзінкі, сала ці паляндвіцы.




**СОЛЬ.** Хрысціяне – соль зямлі. Гэты неабходны мінерал не толькі дадае стравам смак, але і з'яўляецца сімвалам захаванасці ад псавання і мае ачышчальную ўласцівасць. Хлеб і соль з'яўляюцца нібы сутнасцю жыцця, азначаючы яго прастату. Імі таксама вітаюць ганаровых гасцей.

**ПЕРАЦ** (чорны молаты) сімвалізуе горкія зёлкі, якія яўрэі дадавалі ў пікантны соус колеру цэглы, называны харосэт. Яны мачалі ў ім кавалкі пасхальнага ягняці, як напамін аб цяжкай паднявольнай працы пры вырабе цэглы ў Егіпце.

**ХРЭН** мае пякучы смак і выціскае з вачэй слёзы. Найлепш, калі гэта цэлы кавалак кораня. Пазней яго рэжуць на тонкія скрылёчкі і частуюць сабраных. Хрэн таксама можа быць пацёрты і вымешаны з яйкам і смятанай.

**СЫР.** Найлепш калі ён выраблены з авечага, казінага ці каровінага малака. Звычайна гаспадыня купляе яго на рынку. Але можа быць і тварог, зроблены дома.

**ЯЙКА** – традыцыйны святочны падарунак, аздабленне велікодных кошычкаў і сталоў. Сімвал плоднасці, адраджэння жыцця, знак перамогі Хрыста над смерцю. Звараныя ўкрутую і пафарбаваныя яйкі – асноўны кампанент свянцонага. Дзяленне яйкам і ўзаемныя пажаданні садзейнічаць умацаванню сямейных і суседскіх сувязей.

*С. М. Паўла Волчэк CSFN*







### Білбордавая кампанія Касцёла

***“Канкубінат – гэта грэх, не чужалож!”. Так гучыць дэвіз білбордавай кампаніі Касцёла на вуліцах гарадоў Польшчы. Акцыя накіравана на маладых людзей, якія жывуць у несакраментальных саюзах. Гэтая праблема закранае звыш паўмільёна палякаў.***

*Аўтары праекта падкрэсліваюць, што гэта адказ на “знікненне пачуцця граху чужаложства”. Кампанія павінна ўздзейнічаць на некалькіх узроўнях: сямейным, душпастарскім і кансультацыйным.*

*Даследаванні, якія праводзіліся ў ЗША, Канадзе, Швецыі, а таксама ў Польшчы, паказваюць, што несакраментальныя саюзы лёгка распадаюцца. У Польшчы ажно 49% канкубінатаў ствараюць асобы ўзростам да 34-х гадоў. Адна з галоўных прычын канкубіната – страх узяць на сябе адказнасць за іншага чалавека.*




### 51 мільён бежанцаў па прычыне войнаў, насілля і беднасці

***Кожную чацвёртую секунду адзін чалавек у свеце вымушаны ўцякаць і пакідаць свой дом. Гэта азначае, што кожны дзень больш за 20 тысяч чалавек становяцца бежанцамі. Гэта значна больш, чым колькасць бежанцаў, выкліканая II Сусветнай вайной.***

*Гэтую драматычную статыстыку публікуе “UNICEF” разам з “Oxfam” – міжнароднай гуманітарнай арганізацыяй. Дзве гэтыя арганізацыі ініцыявалі міжнародную кампанію, якая павінна наблізіць усім гісторыю бежанцаў, паказваючы такім чынам умовы іх штодзённага жыцця. Галоўная мэта кампаніі, названай “Краіны нябачных людзей”, – інфармаванне пра іх лёс еўрапейцаў. Гэта менавіта жыхары Старога Кантынента з'яўляюцца найбольшай крыніцай фінансавання праектаў дапамогі ў гэтых краінах.*




### Незвычайная пілігрымка

***У Ватыкан прыбыла пілігрымка “Ад Францішка да Францішка з Францішкам”. 10 братоў меншых, якія прадстаўляюць тры галіны ордэна, заснаванага св. Францішкам, прайшлі пешшу дарогу Асізі–Рым.***

*Гатая ініцыятыва была прынята ў межах Года кансэкраванага жыцця. У групе францішканскіх пілігрымаў аказаўся таксама паляк, а. Рычард Стэфанюк OFMConv.*

*“Мы ішлі разам, тры францішканскія галіны, каб прынесці Святому Айцу рэліквіі Бедака з Асізі. Гэта фрагмент пояса св. Францішка. Мы перададзім іх Святому Айцу як вотум удзячнасці для Папы, які абудзіў у Касцёле францішканскі дух”.*

***Кінга Красіцкая***

## У Шчучыне прайшлі духоўныя сустрэчы для юнакоў

*18 юнакоў у кляштары айцоў піяраў разважалі над барацьбой са злым духам у духоўным жыцці юнака. Малітоўная сустрэча таксама дала магчымасць паглыбіць сваю веру, узмацніць сяброўства з Хрыстом, каб адкрыць сваё жыццёвае пакліканне.*

Духоўныя практыкаванні праводзіў а. Аляксандр Махнач SP, піярскі душпастар пакліканняў у Беларусі. У праграме была супольная малітва, разважанне над Святым Пісаннем, тэматычныя сустрэчы, размова са святаром, споведзь, гульня ў пінг-понг. Эўхарыстыя і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту сталі для ўдзельнікаў найлепшай магчымасцю, каб паслухаць Пана.



## У Гродне ўшанавалі бласлаўлёных назарэтанак з Навагрудка

*У гродзенскай катэдры св. Францішка Ксаверыя 8 сакавіка прайшла святая Імша падзякі з нагоды 15-й гадавіны беатыфікацыі 11 назарэтанак мучаніц з Навагрудка.*

Святую Імшу ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. "Сёстры назарэтанкі сваёй гераічнай смерцю даказалі, што любоў мацнейшая за нянавісць, што для любові можна жыць і паміраць, што нават у нечалавечых умовах можна заставацца чалавекам", – зазначыў у гаміліі іерарх.

У гэты ж дзень падчас адмысловых прэлекцый сёстры з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта на ўсіх Імшах набліжалі вернікам постаці 11 мучаніц і іх дарогу да святасці.



## "Як кс. Боско: з моладдзю, для моладзі"

*Пад такім дэвізам у араторыі св. Яна Боско ў Смаргоні адбыўся вечар размоў. Пасля святой Імшы і Крыжовага шляху моладзь сабралася ў араторыі, каб разам разважаць над дэвізам салезіянскай сям'і на 2015 год.*

На вечары прысутнічала с. Маргарыта, якая растлумачыла сэнс мастацкага вобраза да дэвізу на 2015 год. Яна падкрэсліла, што моладзь сённяшняга часу адзінокая, ёй не хапае часу, яна жыве ў віртуальным свеце, але шукае сэнсу жыцця, і менавіта кс. Боско дае гэты сэнс, паказвае на неба, на святасць.



## Папа абвясціў юбілейны Год міласэрнасці

*Святы Год Міласэрнасці пачнецца ў каталіцкім Касцёле ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі 8 снежня 2015 г. і скончыцца 20 лістапада 2016 г., ва ўрачыстасць Пана нашага Езуса Хрыста, Валадара Сусвету.*

"Дарагія браты і сёстры, я часта думаю пра тое, як Касцёл можа зрабіць яшчэ больш відавочнай сваю місію быцця сведкам міласэрнасці. Гэта шлях, які пачынаецца ад духоўнага навяртання. Таму я вырашыў абвясціць надзвычайны Юбілей, які будзе мець у сваім цэнтры міласэрнасць Бога", – сказаў Папа і заклікаў перажыць яго, натхняючыся евангельскімі словамі "Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны".



## Вялікапосныя рэкалекцыі душпастарства "OPEN"

*У рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі ў Гродне адбыліся традыцыйныя вялікапосныя рэкалекцыі Душпастарства працуючай моладзі і студэнтаў "OPEN". Плённа перажыць духоўныя практыкаванні дапамагаў моладзі кс. Міхаіл Ціхановіч.*

Знайсці Хрыста, пазнаць Яго і адказаць на Яго заклік – такія тэмы святар прапанаваў маладым вернікам падчас рэкалекцый. У сваіх разважаннях рэкалекцыяніст прысвяціў вялікую ўвагу таму, каб паказаць маладым людзям шлях да Бога. Таксама святар нагадаў крытэрыі быцця вучнем Езуса Хрыста.

У праграме рэкалекцый былі таксама адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і набажэнства Крыжовага шляху. Быў час на размовы і магчымасць задаць рэкалекцыяністу пытанні.

Рэкалекцыі, у якіх прынялі ўдзел каля 100 чалавек, завяршыліся актам абрання Хрыста адзіным Панам жыцця. Кожны з удзельнікаў атрымаў індывідуальнае бласлаўлёнае Найсвяцейшым Сакрамантам і меў час на асабістую малітву.



## 70-гадовы юбілей кс. Казіміра Жыліса

*Юбілей адзінага на ўсю Беларусь езуіта, капелана, духоўнага настаўніка і, як заўважыў пробашч гродзенскай катэдры, "чалавека-легенды", ксяндза Казіміра Жыліса, адзначылі ў касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.*



У літургіі, якую ўзначаліў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі абп Тадэвуш Кандрусевіч, удзельнічалі біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, настаяцель Расійскай правінцыі айцоў езуітаў айцец Антоній, святары, манаскія сёстры, а таксама вернікі Гродна і тых месцаў, дзе ў свой час служыў кс. Жыліс.

Звяртаючыся да вернікаў з гаміліяй, кс. бп Юзаф Станеўскі адзначыў, што кс. Жыліс цэлы шмат гадоў рупліва вядзе вернікаў па дарогах Пана Бога. "Ён сярод нас як праведнік, як той, хто клапоціцца, каб мы не згубіліся сярод колераў сучаснага свету. Ксёндз Казімір стаў сярод нас і з адвагай кажа ўсім, у чым заключаюцца нашы асноўныя абавязкі і заданні, напрыклад, нагадваючы бацькам пра іх пакліканне перадаваць жыццё", – дадаў іерарх.

У сваю чаргу Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч прыпомніў шматлікім вернікам, што кс. Казімір Жыліс з'яўляецца прыкладам нязломнага барацьбіта за правы Касцёла і свабоду веравызнання, што асабліва чынам праявілася падчас ганенняў на Касцёл.

Ксёндз Жыліс – першы святар у Беларусі, які распачаў і працягвае душпастарства вязняў, што вельмі важна для іх выратавання да нармальнага жыцця.

Ксёндз Казімір таксама вядомы ў літоўскіх колах, бо ўжо на працягу многіх гадоў апекуецца каталіцкай супольнасцю літоўцаў у Гродне, служыць кожную нядзелю святую Імшу на літоўскай мове, моліцца разам з вернікамі.

## Аб'ява

**З 27 па 29 сакавіка ў будынку Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі адбудуцца рэкалекцыі распазнання паклікання.**

Запрашаем міністрантаў і хлопцаў узростам ад 14 гадоў перажыць хвіліны суцішэння і цудоўнай задумы над сваім жыццёвым шляхам – "Да чаго мяне заклікае Бог?". Удзельнікі рэкалекцый змогуць адчуць клімат сямейнага жыцця, паразмаўляць з клерыкамі і духоўнымі айцамі, а таксама паглыбіць свае веды праўд веры і малітвы.

**Заяўкі прымаюцца да 25 сакавіка.**

Адказны за рэкалекцыі – кс. Валерый Быкоўскі.

Кантактны нумар – **77-02-34** *(тэлефон семінарыі).*

***Сардэчна запрашаем!***




## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

***Ці посціце Вы ў перыяд Вялікага посту?***

- **44,6%** *толькі па пятніцах*
- **23,2%** *некалькі дзён на тыдзень*
- **8,9%** *на працы (ва ўніверсітэце, у школе) не, дома – так*
- **21,4%** *як дома, так і на працы (ва ўніверсітэце, у школе)*
- **0%** *толькі час ад часу*
- **1,8%** *не, не разумею сэнсу посту*

*У чарговым вялікапосным апытанні мы прапанавалі чытачам выказацца на тэму посту. Большасць рэспандэнтаў выказалася за тое, што посцяць толькі па пятніцах. Таксама вялікая частка ўдзельнікаў апытання посцяць некалькі дзён на тыдзень. Некаторыя посцяць, не звяртаючы ўвагі на пэўныя абмежаванні на працы ці вучобе.*

***Вынікі чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда***

## КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА



***Кс. Павел Салабуда***

*Перыяд Вялікага посту для многіх з нас атаясамліваецца з пастановай посціць. Усё больш людзей, абуджаючы свае інтэнцыі, прымае пастанову посціць не толькі па пятніцах, але і ў іншыя дні тыдня. Больш таго, часта гэта пост на хлебе і вадзе. Пост акрамя "адрачэння ад сябе" павінен заўсёды вынікаць з любові да Бога, бліжняга, а таксама да самога сябе. Таму ён з'яўляецца канкрэтным адказам, які запрашае чалавека да навяртання. Каб адчуць блізкасць і прысутнасць Бога ў чалавечым жыцці, мы не можам замяніць малітву і пост чымсьці іншым. Заахвочваю Вас, паважаныя Чытачы, у гэтыя апошнія дні Вялікага посту папосціць на хлебе і вадзе ў сваіх інтэнцыях, у інтэнцыі нашага навяртання.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

- **25 сакавіка 2005 г.** – кс. прэлат Казімір Шаняўскі, *проб. Радунь;*
- **25 сакавіка 2009 г.** – кс. кан. Уладзіслаў Мяшчаньскі, *душп. Сапоцкін;*
- **26 сакавіка 1942 г.** – кс. Ян Храбоншч, *проб. Капцёўка;*
- **26 сакавіка 1997 г.** – а. Францішак Кракоўскі CSsR, *проб. Макараўцы;*
- **30 сакавіка 1964 г.** – кс. Станіслаў Сарока, *проб. Вялікія Эйсманты;*
- **31 сакавіка 1964 г.** – кс. Юліян Бароўка, *проб. Рэпля;*
- **1 красавіка 1946 г.** – кс. Юзаф Савіцкі, *проб. Дзятлава;*
- **2 красавіка 2005 г.** – св. Ян Павел II, *Папа;*
- **4 красавіка 1961 г.** – кс. Стэфан Гародка, *проб. Белагруда.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




***Час Вялікага посту*** *– гэта час яшчэ большай барацьбы з грахамі, паглыбленне ў сабе і адданасці малітве і справам міласэрнасці. Гэта час ачышчэння, бо літургічныя тэксты разам з набажэнствамі Крыжовага шляху і Песень жальбы ствараюць спрыяльны для працы над духоўным адраджэннем клімат. “Будзь міласцівы і абмый мяне з бруду, у якім мяне трымае грэх, утвары сэрца чыстае”, – хіба ж гэтыя словы не даюць магчымасці задумацца і зрабіць рахунак сумлення з усяго свайго жыцця, асабліва ў такім узросце, як мой.*

*Задаўшыся гэтай мэтай, я прыйшла да высновы, што нашае пасляваеннае пакаленне нешчаслівае, таму што значны прамежак часу мы пражылі ва ўкрыцці ад Бога. Мы не мелі магчымасці адкрыта наведваць святыні, нават тыя, якія і былі дзе-нідзе адкрытыя. А настаўнікі ў той час не мелі права нават думаць пра рэлігію. Таму прыходзілася ехаць за сотні кіламетраў, каб хаця б раз на год паспавядацца, і шлюб браць уначы пры святле адзінай свечкі, і дзяцей хрысціць патаемна, каб ніхто не дазнаўся. Бо страціць працу было страшна.*

*Памятаю выпадак, які на ўсё жыццё застанецца перад вачамі. Варшава. Дзеці ў святыні мелі Першую Камунію. Божа, якая ўрачыстасць! Я нічога не магла ўбачыць, бо слёзы крыўды засцілалі мае вочы. Чаму маім дзецям пражыць такое немагчыма?*

*Але ў Бога ўсё магчыма. І я цяпер радуюся таму, што магу свабодна наведваць святыню, што нават паглыбляю свае веды, дыскутуючы з унукамі на тэмы Бібліі. У нас не было такой магчымасці, а яны рэгулярна наведваюць заняткі рэлігіі, рыхтуюцца да Парафіяд, чытаюць Божае слова. І калі б увесь пражыты час быў такім плённым, калі б мы мелі магчымасць пашыраць сваё веданне Бібліі і жыццяў святых, умелі па-божаму адрозніваць дабро ад зла, то нам не трэба было б скідваць з сябе цяжар грахоўных дзеянняў, якія былі здзейснены ў мінулым з-за няведання: гаданні, магічныя рытуалы, амулеты, бабкі-шаптухі. Тады мы не разумелі ўсёй глыбіні адмоўнага адлюстравання гэтых грахоў на лёсе сваім і нават наступных пакаленняў. Прабач нам, Божа!*

*Бяда была таксама ў тым, што не было кніг, якія б дапамагалі стаць у праўдзе перад Богам. Цяпер мы ўсведамляем важнасць малітвы ў нашым жыцці, бо маем Біблію, малітоўнікі, спеўнікі, часопісы, жыццярысы святых, газеты, такія як “Слова Жыцця”… А якое важнае абвяшчэнне Божага слова з вуснаў святароў, якія так зразумела і даступна сеюць у душы вернікаў Божае святло. Нашыя кс. Чэслаў Паўлюкевіч і кс. Андрэй Радзевіч валодаюць сапраўдным Божым дарам – уменнем цудоўна даносіць да сэрцаў вернікаў Божае слова. Дзякуй ім! Колькі Божага святла ўліваецца ў душы вернікаў падчас рэклекцый, якія арганізуе наш пробашч кс. Чэслаў. І набажэнствы да Езуса Журботнага ў кожную другую суботу месяца. Проста сэрца спявае ад радасці, калі бачыш чэргі да месцаў ачышчэння – асабліва ў Вялікім посце – да канфесіяналаў. Усе гэтыя крынічкі, як праменьчыкі, асвятляюць дарогу да святасці. Трэба толькі слухаць, выконваць, разважаць, перапрацоўваць сэрцам.*

*Я вельмі ўдзячна Богу, і гэта асабліва разумеецца ў час Вялікага посту, калі яшчэ раз прагортваеш сэрцам і душой старонкі Крыжовага шляху Яго Адзінароднага Сына Езуса, за тое, што выбраў нашу святыню санктуарыем Езуса Журботнага, які ў цярнёвай кароне вітае і запрашае ўсіх да ачышчэння душы ад усякага смецця, якое перашкаджае крочыць шляхам да святасці, а яшчэ стаць больш міласэрнымі і праз міласціну заўважаць раны іншых людзей і дапамагаць ім.*

*У маім жыцці было многа добрых людзей, якія дапамагалі мне ў цяжкія часы і навучылі міласэрнасці. Таму я, не маючы вялікіх матэрыяльных каштоўнасцей, маю моцную веру і міласэрную душу.*

*Жадаю ўсім у час Вялікага посту, каб іскрынкі Божага святла, якія ўліваюцца праз усе крынічкі пазнання Божай праўды, разгарэліся ў вялікае полымя вашых сэрцаў – полымя дабрыні і міласэрнасці.*

***З удзячнасцю і павагай да ўсіх,***
***Алена Блажэеўская***




## Урачыстасці літургічнай службы алтара

У парафіі Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса і святой Тэрэзы з Авіля ў Шчучыне сем кандыдатаў упершыню ўсклалі на свае плечы комжы, прысягнуўшы, што будуць руплівымі міністрантамі, а яшчэ дзевяць сталі лектарамі (упершыню ў гісторыі парафіі). Урачыстасці ўзначаліў пробашч парафіі а. Вітольд Пяцельчыц SP.














***“Ці можна піць асвечаную ваду кожны дзень, не маючы ў гэтым неабходнасці? Мае дзеці кожную раніцу, зрабіўшы знак крыжа, п’юць тры глыткі вады з Будслава. Ці не з’яўляецца гэта блюзнерствам?”***

*Гісторыя вады ў хрысціянскіх рэлігіях мае вельмі доўгую традыцыю, якая бярэ пачатак са Старога Запавету. На працягу стагоддзяў ваду выкарыстоўвалі ў розных мэтах. Яна мела вялікае лекавае значэнне: вада з крыніцы, з іншых месцаў, што славяцца цудамі. Каля некаторых санктуарыяў можам знайсці асвечаную ваду.*

*Кожны з нас павінен адрозніваць ваду, асвечаную святаром, ад вады з крыніцы (не асвечанай). Асвечаная вада выключана са штодзённага (свецкага) карыстання. Яна павінна быць выкарыстана паводле малітвы Касцёла, якой моліцца святар падчас яе асвячэння. Крынічную ж ваду можна ўжываць па-рознаму: мыцца, рабіць гарбату, праць.*

*Малітвы пры асвячэнні вады змяняліся на працягу стагоддзяў. Хоць трэба прызнаць, што апошняя малітва перад Другім Ватыканскім Саборам мела вельмі багаты змест, але яна была толькі адна. Ватыканскі Сабор увёў змены, і колькасць малітваў павялічылася. Гэта дало святару права выбраць малітву для адпаведнай сітуацыі.*

*Новыя малітвы асвячэння вады, якія выкарыстоўваюцца па-за святой Імшой, наогул маюць у сабе агульныя просьбы да Бога: аб Божай апецы, аб аднаўленні нашай душы і цела, аб благаслаўленні і ачышчэнні для Касцёла, аб тым, каб вада нагадвала нам аб нашым хросце… Ва ўспамін св. Агаты асвячаецца вада для таго, “каб бараніла нас ад агню і ўсіх небяспек”. Блаславяючы ваду падчас св. Імшы, святар просіць Бога, каб даў праз ваду “абарону ад усялякіх хвароб і подступаў д’ябла” і дапамог пазбегнуць “усіх небяспек для душы і цела”.*

*Трэба таксама памятаць, што акрапленне падчас святой Імшы – гэта памятка нашага хросту. Хрысціянін акунаецца – ачышчаецца ад першароднага граху. Разам з Хрыстом ён уваскрасае ўжо як новы чалавек. Гэта настолькі важны момант, што ўсё, што адбываецца ў пазнейшым жыцці чалавека, павінна быць клопатам пра гэты выбар, каб яго ўмацоўваць, развіваць і ўдаскапальваць.*

*Касцёл блаславяе рэчы: памяшканні, прадметы, ежу, але сапраўдным адрасатам блаславення з’яўляецца чалавек. Рэчы маюць адзіную мэту – дапамагчы “быць пасрэднікам” у персанальнай сустрэчы чалавека з Богам. Рэчы не атрымліваюць нейкай моцы. Самі па сабе яны не могуць дапамагчы ў працэсе збаўлення, але з’яўляюцца важнымі настолькі, наколькі ім спадарожнічае вера ў моц і Божае дзеянне. Такое разуменне асвечаных рэчаў вельмі важнае, бо засцерагае ад магічнага іх успрымання.*

*Шмат можна казаць пра сакраменталіі ў Касцёле, але, адказваючы на пастаўленае пытанне, хачу падкрэсліць, што піццё асвечанай вады не з’яўляецца блюзнерствам.*

***Кс. Аляксандр Сапель***
***Крыніца: catholicnews.by***




# ІДЗЕМ ДА ПЕРШАЙ СВЯТОЙ КАМУНІІ

## Святыя сакраманты

### Сакрамант пасвячэння

Святарства, ці сакрамант пасвячэння, быў устаноўлены Панам Езусам.

Ён прагне дапамагчы нам на шляху да неба і таму даў нам Папу, біскупаў і святароў. Ён паклікаў іх, заклікаў да служэння. Гэта яны павінны клапаціцца пра нас, так як пастух клапоціцца пра сваіх авечак.

Алюмны, якіх мы таксама называем клерыкамі, рыхтуюцца да святарства ў Вышэйшых духоўных семінарыях. Гэта спецыяльныя месцы, у якіх моляцца і вучацца. Такое навучанне працягваецца мінімум шэсць гадоў. Пад канец пятага курса яны прымаюць дыяканскае пасвячэнне, а пасля шостага – святарскае.

Сакрамант святарскага пасвячэння ўдзяляе біскуп.

Гэтаму спадарожнічае спецыяльная кансэкрацыйная малітва, якая асаблівым чынам прысвячае асобу на службу Богу. У гэтай малітве ўзносіцца просьба да Пана Бога, каб удзяліў асвячаемым ласкі Святога Духа. Гэтыя ласкі вельмі патрэбны, каб выконваць заданні, якія стаяць перад імі. Яшчэ перад ускладаннем рук спяваецца Літанія да ўсіх святых, падчас якой кандыдаты да святарства ляжаць крыжам на зямлі і даручаюць Богу сваё пакліканне.



Ва ўрачыстасці пасвячэнняў удзел прымаюць таксама іншыя святары, якія разам з біскупам цэлебруюць Эўхарыстыю. Яны таксама ўскладаюць рукі на галовы асвечаных святароў і моляцца за іх.

Святарскае пакліканне вельмі прыгожае, хоць і нялёгкае. Кожнаму святару патрэбна наша малітва. Памятайце пра гэта, асабліва падчас Эўхарыстыі. Маліцеся таксама аб новых святарскіх, манаскіх і місійных пакліканнях, таму што ў свеце ёсць яшчэ мноства месцаў, дзе людзі чакаюць ксяндза.

### Сакрамант сужэнства

Вы, напэўна, былі на святой Імшы, падчас якой двое людзей – мужчына і жанчына – прымалі сакрамант сужэнства. Можа, нават хтосьці з вас падаваў будучым сужэнцам пярсцёнкі, трымаў вэлюм нявесце ці дапамагаў збіраць манеткі, якія госці кідалі перад касцёлам “на шчасце”.




Падчас Эўхарыстыі святар звязвае стулай далоні будучых сужэнцаў і з'яўляецца з боку супольнасці Касцёла сведкам прысягі, якую яны складваюць.

Кожны з іх прамаўляе прыгожыя словы: “Прысягаю табе любоў, вернасць і сужэнскую павагу, і тое, што не пакіну цябе аж да смерці. Няхай дапаможа мне ў гэтым Бог усемагутны ў Тройцы адзіны і ўсе святыя”. Складанне гэтай прысягі азначае прыняцце сакраманту сужэнства. Потым у знак любові сужэнцы надзяваюць адзін аднаму (муж жонцы, жонка мужу) благаслаўленыя раней пярсцёнкі. Пры гэтым яны таксама прамаўляюць абавязковыя словы: “Прымі гэты пярсцёнак у знак маёй любові і вернасці. У імя Айца і Сына, і Святога Духа. Амэн”. Сужэнцы таксама абяцаюць, што іх сям'я будзе хрысціянскай, а сваіх дзяцей яны выхаваюць у веры. На канец святар у імя Найсвяцейшай Тройцы благаслаўляе заключанае сужэнства.

Бясспрэчна, гэта нялёгкае заданне. Вы глядзіце на сваіх бацькоў і бачыце, як яны павінны клапаціцца, каб ваша сям'я была шчаслівай, каб вы маглі добра развівацца. Часта маліцеся за сваіх бацькоў, даручайце Пану Богу іх складаныя справы і будзьце для іх радасцю.

Клапаціцеся аб добрых сябрах, вучыцеся дапамагаць іншым. Гэта дапаможа вам не быць самалюбамі і ў будучым добра выконваць сваё пакліканне.



*Крыніца: часопіс „Dominik idzie do I Komunii Świętej”*

# Ад шчырага сэрца

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Заступніка, усіх дароў Святога Духа, а таксама моцнага здароўя, душэўнага супакою і нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля словам і жыццём.

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Юзафу Станеўскаму з нагоды Імянін жадаем найлепшых дароў Святога Духа, душэўнага супакою, суцяшэння ў смутку, цярплівасці на пастарскім шляху, а таксама нястомнай апекі Маці Божай з Вострай Брамы.

*Апостальства “Маргарытка” з Беняконяў*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юзафу Багдзевічу з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні ўсяго найлепшага: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, штодзённай радасці і поспехаў у святарскай працы. Няхай Бог Айцец дадае Вам сіл, Святы Дух надзяляе мудрасцю і супакоем, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, нястомна апекуецца і абараняе ад зла. Дзякуем Вам за Вашу чуласць і дабрыню. Вы заўсёды нас выслухоўваеце і дапамагаеце парадай. Мы памятаем пра Вас у малітвах. Няхай Вас нястомна ахоўвае св. Юзаф.

*Удзячныя вернікі з пар. св. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень праходзіць у супакоі, радасці, шчасці, будзе асвечаны святлом Святога Духа і Божай любоўю. Няхай здароўе спрыяе на працягу яшчэ многіх гадоў, моц і цярплівасць не пакідаюць, а побач будуць добразычлівыя людзі, гатовыя падтрымаць у цяжкія хвіліны.

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам Гродзенскай дыяцэзіі*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Севасцьяновічу з нагоды Дня нараджэння перасылаем свае найлепшыя віншаванні і пажаданні апекі Маці Божай, надзеі і шчодрых дароў Святога Духа. Мы бязмежна ўдзячны Богу за Вас, наш дарагі Пробашч, за ўпэўненасць, супакой і радасць, якія Вы нам нясеце! Дзякуем за рамонт нашага касцёла. Няхай добры Бог асвячае Ваш жыццёвы шлях, умацоўвае розум і сэрца, каб словы, якія выходзяць з вуснаў, надалей заставаліся Божым полымем для нашых сэрцаў і моцай для нашай веры. Няхай Цела і Кроў Збаўцы так моцна з'яднаюць Вас з Богам, каб Вы ніколі не аддаліліся ад Яго, а наша гарачая і сардэчная малітва няхай будзе падтрымкай для Вас у рэалізацыі планаў і намераў на Божай ніве і ў Вашым жыцці. Перасылаем таксама словы ўдзячнасці бацькам за нараджэнне і выхаванне сына. Хвала Пану!

*З любоўю вернікі з пар. св. Мікалая ў Міры*

Паважанаму Ксяндзу Юзафу Ханьчыцу з нагоды Імянін перасылаем найлепшыя пажаданні моцнага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, цярплівасці і стойкасці ў душпастарскай працы, апекі Маці Божай і св. Заступніка, шчодрых дароў Святога Духа і добразычлівых людзей побач. Шчасці Божа!

*З малітоўнай памяццю члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліды*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Субелю з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем заўсёды быць упэўненым, надзейным і стойкім ва ўсіх складаных жыццёвых абставінах. Жадаем таксама моцнага здароўя, бадзёрасці і цярплівасці, радасці і душэўнага супакою на кожны дзень. Няхай Вас абараняе ад усіх нягод Анёл-ахоўнік, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго сэрца і дапамагае ў складаныя моманты. Няхай Ваш святарскі шлях будзе благаслаўлёны, напоўнены Божай моцай і шчодра ўзнагароджаны дарамі Святога Духа. Шчасці Божа!

*З удзячнасцю вернікі з касц. Нараджэння НПМ у Трабах*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, душэўнага супакою, рэалізацыі ўсіх планаў і намераў, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху і поспехаў у душпастарскай працы. Няхай Маці Божая Тракельская апекуецца Вамі кожны дзень, а ўсемагутны Бог адкрывае свае далоні для Вас і шчодра благаслаўляе.

*З малітвай і павагай Шаропава Алёна і Пшэразінская Марына*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Няхай кожны Ваш дзень будзе шчаслівы і благаслаўлёны, побач будуць добрыя і шчырыя людзі, заўсёды гатовыя прыйсці на дапамогу, Святы Дух няхай адорвае Вас сваімі дарамі, а Маці Божая нястомна апекуецца.

*Прадстаўнікі III Ордэна св. Францішка і парафіяне з Суботнікаў*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў на кожны дзень. Няхай кожная хвіліна будзе шчаслівай і радаснай, побач будуць толькі добрыя і зычлівыя людзі, а з твару не знікае ўсмешка. Няхай Маці Божая нястомна Табой апекуецца, а Анёл-ахоўнік увесь час чувае.

*Сям'я Рудзевіч*

Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў. Не губляйце аптымізму і надзеі, цешцеся кожнай пражытай хвілінай, кожную справу даручайце Богу і будзьце шчаслівым ад плёну сваёй працы і ад Яго любові і міласэрнасці. Жадаем таксама здароўя, душэўнага супакою, моцы, каб пераадолець усе цяжкасці, а таксама апекі Маці Божай Тройчы Цудоўнай і ўсіх дароў Святога Духа на кожны дзень.

*З павагай і малітвай сям'я Гальчэняў з Гродна*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юзафу Багдзевічу з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, радасці ў душпастарскай паслузе, а таксама сіл у рэалізацыі ўсіх планаў і намераў. Няхай людзі, якіх Вы сустракаеце на сваім святарскім шляху, заўсёды будуць зычлівымі і добрымі, а ўсемагутны Бог няхай спасылае на Вас свае дары.

*Касцёльны камітэт з пар. св. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і людской добразычлівасці. Няхай Езус Хрыстус заўсёды і ва ўсім Вам дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Дзякуем за ахвярную працу, наведванне і асвячэнне нашых дамоў, за супольную малітву і прыемную размову.

*Ружанцовыя колы з Суботнікаў*

Паважаным Ксяндзу Юзафу Багдзевічу і Айцу Юзафу Макарчыку з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог Айцец узнагародзіць здароўем на доўгія гады і сіламі для працы, Езус Хрыстус няхай асвячае Ваш святарскі шлях, Маці Божая нястомна апекуецца, а св. Юзаф раз'ясняе кожны дзень Вашага жыцця і адорвае радасцю і цярплівасцю.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу з нагоды Дня нараджэння складаем самыя шчырыя пажаданні Божага благаслаўлення на кожны дзень святарскай паслугі і добразычлівых людзей побач, гатовых заўсёды дапамагчы. Няхай добры Бог адорвае Вас здароўем, мудрасцю і чулым сэрцам, дапамагае заўсёды несці Езуса людзям, а Святы Дух няхай напаўняе Вас моцай і ўсімі ласкамі.

*Удзячныя парафіяне з вул. Маладзёжнай у Суботніках*

Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Субелю з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчасця, радасці, ясных дзён, цярплівасці, Божай дапамогі ў душпастарскай працы і апекі Маці Божай. Няхай усмешка дабрыні ніколі не знікае з Вашага твару. За працу навучання і фарміравання сэрцаў Вас можа ўзнагародзіць толькі Бог. Дарога святара нялёгкая, на ёй мноства перашкод, але мы просім Пана, каб Ён дапамог Вам вытрываць і перамагчы ўсе цяжкасці.

*Касцёльны камітэт і ўдзячныя парафіяне з Сурвілішкаў*

Паважанаму Ксяндзу Прэлату Юзафу Трубовічу з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай праз заступніцтва Найсвяцейшай Маці ў здароўі і радасці яшчэ на працягу многіх гадоў Вы будзеце для святароў і вернікаў прыкладам, як годна выконваць пастарскую службу, верна служыць Богу і людзям.

*Парафіяне з касц. Беззаганнага Зачацця НПМ у Паўднёвым*

Паважанаму Ксяндзу Віталію Дабраловічу з нагоды Дня нараджэння і надыходзячага Дня святара перасылаем мноства сардэчных пажаданняў здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, сілы, стойкасці, апекі Маці Божай і Езуса Хрыста, а таксама шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень. Шчасці Божа!

*Алена Аніскевіч разам з дзецьмі, в. Гіровічы*

Шаноўным Сёстрам Гарэцці Мількевіч і Зоф'і Гурскай з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца перасылаем мноства Божых ласкаў: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, штодзённай радасці і добрых людзей побач. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя штодзённа Вамі апекуецца, а Святы Дух шчодра адорвае сваім дарамі.

*III Ордэн св. Францішка, Колы жывога Ружанца і парафіяльны хор з пар. Тэалін*




**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** кс. Ян Раманоўскі, Юрый Лавыш, Алена Гальчэня; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowozycia@mail.grodno.by; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1649; тыраж 6600; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная